нардынскім садзе расказваў маскалям розныя анекдоты з жыцця імператрыцы і вельмі ўмела іранізаваў з няўдалай думкі звязаць віленскія ўрачыстасці з імем гэтай блудніцы. Адразу пасля гарбаты вялікі князь выехаў на вакзал і вярнуўся ў Пецярбург. На той момант яму было ўсяго 26 гадоў, і ён здаўся нам вельмі разумным і спакойным маладым чалавекам. Мясцовая расейская прэса надрукавала разгорнутую інфармацыю пра віленскія святкаванні без каментароў і абразаў. Яна разумела, што наш удзел у гэтых святкаваннях быў не больш, чым прызнаннем расейскай дзяржаўнасці. "Виленский вестник" назваў гэтыя ўрачыстасці мірным святкаваннем адкрыцця помніка імператрыцы Кацярыне ў Вільні (артыкул ад 1 студзеня 1905 г.). Мясцовая прэса пераважна праігнаравала ўрачыстасці маўчаннем, бо разумела нашу складаную сітуацыю. Менш дасведчаныя віленскія кухаркі абмяркоўвалі помнік святой Кацярыне.

У Бернардынскім садзе на гарбату сабралася вельмі вялікая група нашых памешчыкаў. Калі праз колькі месяцаў супраць нас пачаліся нагаворы, была зроблена вялікая розніца паміж 40 абшарнікамі, якія прысутнічалі на адкрыцці помніка і на снеданні ў кн. Мірскага і тымі, хто быў толькі на гарбаце ў графа Платэра. Гэта ўсё казкі, бо гарбата ў Бернардынскім садзе, відавочна, была эпізодам, цесна звязаным з адкрыццём помніка.

У дні адкрыцця помніка афіцыяльныя газеты паведамілі пра намінацыю кн. Станіслава Чацвярцінскага са Скідзеля на гафмайстра двара, раней ён быў шамбелянам, і пра пяць новых намінацый пры двары. Іх атрымалі п.п. Гіпаліт Гячэвіч, Канстанты Скірмунт, граф Аляксандр Тышкевіч, яго брат граф Антоні Тышкевіч і я. Князь Мірскі паведаміў мне пра ўжо зробленую намінацыю лістом у Паёсці. Пазней пачуліся галасы, што хоць наша прысутнасць ля помніка была неабходнай, але пасля гэтага не варта было прымаць прыдворныя пасады. Гэта былі неразумныя галасы. Да намінацыі можна было імкнуцца іх затрымаць, што я са свайго боку і рабіў, але калі мая намінацыя ўжо была гатова, дык дэманстрацыі былі ўжо немагчымыя. Гэта было немагчыма і было б прынята дваром як абраза, гэта была б контрдэманстрацыя, якая абурыла б усю нерэвалюцыйную Расію і спыніла б спробы кн. Мірскага, знішчыла б увесь палітычны эфект віленскіх урачыстасцей і захавала б ранейшыя рэпрэсіі над усім краем. Дваровыя пасады для тых, хто іх атрымаў, сталі горкай пігулкай, і падсаладзіць іх магла толькі думка, што гэта справа паспрыяе раўнапраўю.

Пан Гіпаліт Корвін-Мілеўскі ў сваіх успамінах блытае прыём у вялікага князя Уладзіміра і Марыі Паўлаўны ў Чырвоным Двары ў 1888 г. і прыём у таго ж князя на Пятроўскай гары ў 1904 г. і кажа, што апошні з гэтых прыёмаў арганізаваў Сталыпін, якога там не было, бо ён ужо быў гарадзенскім губернатарам. Пан Мілеўскі ў сваіх успамінах паведамляе, што быў на адкрыцці помніка. Таму ён палічыў, што наша прысутнасць на гэтым адкрыцці была неабходнай. Пан Корвін-Мілеўскі не памятае, што кн. Мірскі пасля свайго афіцыйнага выступу распавёў яшчэ ў вузкаму колу пра сваю праграму для краю. П. Мілеўскі не размаўляў з кн. Мірскім. Аднак паразумеўся з ім праз графа Тацішчава, які быў тады ашмянскім маршалкам і надта перабольшвае гэтае паразуменне. Пра перамовы п. Мілеўскага з князем я ніколі не чуў, даведваўся пра іх толькі з тэксту пана Мілеўскага.

[...]

П. Мілеўскі меў стаяць пад помнікам з умовай, што яму не дадуць прыдворнай пасады. Гэтую ўмову было лёгка выканаць, бо п. Мілеўскі ніколі не фігураваў у спісах кандыдатаў на такія пасады. Гэтыя пасады атрымалі тры віцэ-прэзідэнты сельскагаспадарчых таварыстваў, два Тышкевічы і кн. Чацвярцінскі як прадстаўнікі вядомых у Пецярбургу родаў, звязаных з прыдворнымі коламі, а пра пана Мілеўскага не было і размовы.

[...]

Словы кн. Мірскага не былі пустымі, бо 12 снежня быў выдадзены імператарскі ўказ, які стаў першым веснікам рэформаў. Гэтым указам Камітэту міністраў даручалася распрацаваць цэлы шэраг пунктаў, з якіх пункт 6-ты абвяшчаў рэлігійную талеранцыю, а пункт 7-мы - перагляд абмежаванняў у дачыненні да іншаплемяннога насельніцтва. Указ прыцягнуў увагу ўсёй замежнай прэсы, якая адгукалася пра яго як пра вырашальную падзею ў гісторыі Расійскай дзяржавы. Указ датычыўся таксама і работы камісій па сельскай гаспадарцы. Нягледзячы на гэта, 30 сакавіка 1903 г., гэта значыць пасля звальнення кн. Мірскага, была адменена нарада па патрэбах сельскай гаспадаркі. Аднак, выглядае, што праца камітэтаў старанна аналізавалася і яны стымулявалі шмат рашэнняў і рэформаў.

[...]

У першых днях студзеня 1905 года я зноў быў у Пецярбургу, каб прадстаўляцца імператару. Я не ўпэўнены, на які дзень выпала мая аўдыенцыя. Я думаю, што гэта было 5 студзеня. Перад аўдыенцыяй мне было сказана, што імператар не любіць задаваць дробязныя пытанні людзям, якія яму прадстаўляюцца, і што трэба не чакаць гэтых пытанняў, а праяўляць ініцыятыву падчас размовы. Таму я падрыхтаваў некалькі момантаў, каб сказаць падчас аўдыенцыі тое, што будзе магчыма.

Усе, хто ехаў прадстаўляцца, селі ў Санкт-Пецярбургу ў поезд, які даставіў іх у Царскае Сяло, усе ў мундзірах і толькі двое ў мундзірах двара. Я ехаў у адным купэ з генералам Фрэзе, які зусім нядаўна, 12 кастрычніка 1904 г., пасля князя Мірскага быў прызначаны камандуючым ваеннай акругай і віленскім генерал-губернатарам. Мой швагер Уладзімір Храпавіцкі добра ведаў Фрэзе па Генштабу і вельмі станоўча адгукаўся пра яго. Ён аказаўся сапраўды годным пераемнікам кн. Мірскага і пакінуў у Вільні пасля сябе добрыя ўспаміны. Фрэзе пазнаёміўся са мной і задаў некалькі пытанняў аб стасунках у Вільні, чым я скарыстаўся, каб коратка паведаміць яму пра нашае становішча і нашы пажаданні.

*(Заканчэнне ў наступным нумары.)*

# Беларусы сустракаюцца з індзейцамі

## "Шчанячыя гады": Башлакоў, Ляўковіч, Снітко, Шушкевіч; індзейская "нявіннасць" Макса Шчура

*(Працяг, пачатак гл. у № 19, 22, 24, 27, 30-34, 36-48, 50-52 (2022); 1-52 (53-104) (2023); 1-52 (105-156) (2024); № 3 (157-159) за 2025 г.)*

***Макс Шчур***

### ІНДЗЕЙСКАЕ Ў КНІЗЕ "СПРОБА ЭКСПЭРЫМЭНТАЛЬНАГА КАНСТРУЯВАНЬНЯ СЯБЕ"

#### (1) Голыя дзікуны і канцэпцыя свабоды

Уласную сэксуальнасьць я адкрыў, вядома ж, выпадкова. І, вядома ж, - пасрэдніцтвам кнігі.

У дзіцячай бібліятэцы я пазычыў пачытаць кніжку пра вялікія геаграфічныя адкрыцьці: "Как люди открывали свою Землю". У гэтай кніжцы на ўнутраных уклейках вокладкі былі намаляваныя мапы - на пярэдняй уклейцы была мапа Старога Сьвету, на задняй - Новага. На пярэдняй былі выявы дзікуноў з Афрыкі і Аўстраліі, на другой - з Паўднёвай Амэрыкі.

Дзікуны, узброеныя дзідамі і шчытамі, хадзілі голымі. Гледзячы на іх, я адчуў нейкае цьмянае, невытлумачальнае жаданьне хадзіць, як яны. (...)

Цікава, што ў астатнім, калі не лічыць дзікуноў, мяне нашмат больш вабіла мапа Старога Сьвету (яго "партугальская" палова), чымся Новага ("гішпанская"). Індыя, Кітай, Японія...

Дэйвід Грэйбэр у "Досьвітку ўсяго" піша, што мысьленьне паўночнаамэрыканскіх індыянаў паўплывала на канцэпцыю свабоды ў Русо, а праз яго - і на ідэі Вялікай францускай рэвалюцыі.


Здравствуйте, Алесь!
Извините, что я так долго тянула с ответом. Если честно, то получив ваше письмо, которое вы послали 13 ноября, немного огорчилась. Я учу в школе белорусский язык, но страшно его не люблю. И ещё, вы меня извините, пожалуйста, я не очень люблю официальных писем, официальной, напыщенной формы изложения (написания). Так что я слегка растерялась, не знала как быть. Я наверно одна такая у вас в этой организации, и мне было как-то неловко затруднять вас и портить ваш налаженный „механизм". Ну а теперь я отвечу на вопросы в вашем письме за 13-е число.
1. Писать на белорусском языке вы мне можете, но если вам не очень это противоречит, лучше на русском.
2. (См в верху)
3. В школе изучаю английский, знаю не очень хорошо.
4. В областной библиотеке записана.
5. Адрес Сат-Оки узнала в польском журнале, там, кстати, есть и его большая фотография, он там в индейском костюме. Журнала сейчас у меня нет. Когда написала ему (точно не помню) зимой 1986 года или 87 г.
6. В Гомеле была проездом, около вашего универмага и ещё в нескольких местах, точно не помню.
В Белоруссии была в Минске, Орше, проездом в Витебске.
За пределами Белоруссии была в Киеве, Москве, Калинине, Тарту, Выру (Прибалтика ЭССР), Печоре, была во многих городах Молдавии, Одессе.
И ещё, вы не выписываете журнал „Вокруг света", там иногда печатают статьи об индейцах, и в журнале „Ровесник" за 87 г. напечатана большая статья о Леонардо Пелтиере. У меня пока всё.
До свидание. Лена. 24.10.87.

***Letter from Indianist Lena of Mogilev 1987-10-24***

Падобным чынам голыя дзікуны паўплывалі на мой лёс: яны адкрылі мне маю пачуцьцёвасьць.

*(М. Шчур. Спроба экспэрымэнтальнага канструяваньня сябе, кн. I "Нявіннасьць", разьдзел III "Лібіда", атр. 16.01.2025.)*

#### (2) Індзейска-аргенцінскае паходжанне

Неяк, прачытаўшы чарговую кніжку ці паглядзеўшы чарговы фільм пра "індзейцаў", я пачаў казаць аднакласьнікам, па сакрэце, што ўва мне цячэ кроў аргентынскіх індыянаў, бо мой дзед і бабуля жылі ў Аргентыне, таму я такі смуглявы. Гэта была першая публічная праява маёй асабістай міталёгіі, якую я сам сабе прыдумаў. Відавочна, што я ня меў яшчэ паняцьця, што азначае "ўва мне цячэ кроў". Я нават ня ведаў тады, што дзед Іван - ня


Eduardo Nicenboim
Secretary-General
Sociedad Interamericana de Psicologia
C.C. I35, Suc. 26 (I426)
Virrey Olaguer y Feliu 3679
Buenos Aires
Argentina

February 5, I996

Dear Dr. Nicenboim:

Enclosed please find an appeal on the Vygodskys. If you are interested in the project, we will send you more information.
We would be especially grateful for any Spanish language descriptions/texts for our biobibliography of Lev Vygotsky.
We would also like to know more about your Society.
Sincerely,

(Mr.) Ales Simakou
Executive Secretary
Belarusian - American Indian Society
P.O. Box II4
Gomel 246049
Belarus

***Letter to Eduardo Nicenboim, Secretary-General, Sociedad Interamericana de Psicologia (Buenos Aires, Argentina) 1996-02-05***



Здравствуйте, ~~Алесь~~ Алесь!
Я не знаю сколько вам лет и по этому решила образатся к вам на вы. Мне 16 лет, учусь в 10 классе. Родилась 22 апреля 1971 года, отчество мое Валентиновна. — ну, это то, что вы просили меня написать. От себя ещё добавлю, что кроме индейцев занимаюсь и очень люблю историю и в 9-ом классе целый год преподовала её в 4 классе. Это у нас целый год в школе длился такой экспере-мент. Сейчас занимаюсь в политическом кружке.
Что касается индейцев, то я их очень уважаю, а книжных героев люблю. Читала о них серию книг Ф. Купера, книгу (правда там о них не много) „Слушайте песню перьев". Ну и в разных журналах о их традициях. Небогато. Материаллов о них у меня нет ни каких. Слышала много рассказов о них и смотрела фильмы. Чем привлекают меня индейцы? Они очень свободолюбивы, больше наверно любят свободу, волю, чем все другие какие бы нибыли народы. Гордые, умные, мужественные.

*Ліст ад індзеяністкі Лены (Магілёў) б.д., атр. 1987-10-12 р. 1 of 2*



Да, очень гордые и очень мужественные. Мне нравятся их традиции. Вот например посвящение парня лет 16 в мужчину и т.д. Интрессоваться же ими я начала когда прочитала книгу „Последний из могикан", мне её посоветовала прочитать моя подруга, Света, которая так же очень увлекается индейцами. (Даю вам её адрес, может и с ней вы захотите познакомится: г. Могилёв,

Вот вы пишите, что мы можем им помочь, и пишите в чём заключается наша помощь. Я с вами не совсем согласна. Это конечно так, но от всего этого они не станут счастливее. А пойти воевать вместе с ними, мы не можем. А индейцев лет через 100 может вообще не остатся на земле. Как им помочь?
Ну всё, у меня больше пока не очем писать.
С радостью буду с вами общатся. Надеюсь от вас пополнить свои знания.
До свидание.
Лена.
Телефона нет.
Жду ответ.

*Письмо от индеанистки Лены (Могилев) б.д., получ. 1987-10-12 р. 2 of 2*

мой дзед па крыві. Нехта з, мабыць, больш ужо дась-ведчаных хлопцаў удакладніў са зьдзіўленьнем: "Значыць, твой дзед ці бабуля - індзейцы?" Я сумеўся. А трэба было адказаць: так! Яны ж ніколі майго дзеда ці бабулю ня бачылі. Да таго ж акурат дзед Іван меў з індыянамі ў Аргентыне добрыя стасункі. Гэта яны ўратавалі яго ад голаду ў 17 гадоў, каб ён сам пазьней уратаваў жыцьцё маёй маці. Але да гэтага мы яшчэ вернемся.

*(М. Шчур. Спроба экспэрымэнтальнага канст-руяваньня сябе, кн. I "Нявіннасьць", разьдзел III "Лібіда", атр. 15.01.2025.)*

**(3) Хлусня, Сат-Ок і дзед Іван**

І ўсё ж, напэўна, маёй першай любоўю сярод бібліятэчных кніг былі кнігі аўтара па імі Сат-Ок - "польскага індзейца", які сьцьвярджаў, што нібыта вырас у Канадзе сярод шэванэзаў. Першай я прачытаў "Зямлю салёных скалаў", ягоны опус магнум. Вы будзеце сьмяяцца, але гэтая кніга - успаміны пра дзяцінства. З той розьніцай, што Сат-Окава дзяцінства, калі верыць аўтару, было непараўнальна цікавейшае за маё. Таму калі вы яшчэ яго не чыталі - зараз жа кіньце гэтую кніжку й бяжыце чытаць "Зямлю салёных скалаў", інакш ёсьць рызыка, што вы пражылі гэтае жыцьцё дарма.

Прыгодніцкія кніжкі, як і фільмы, важныя ў дзяцінстве, бо яны стымулююць самую радасьць ад жыцьця і змушаюць вас штосьці ад яго чакаць. То бок, натуральна, хлусяць. Як хлусіў, хутчэй за ўсё, паляк Сат-Ок, быццам жыў сярод індыянаў.

А вось мой дзед Іван Дайнэка не хлусіў ніколі.

*(М. Шчур. Спроба экспэрымэнтальнага канст-руяваньня сябе, кн. I "Нявіннасьць", разьдзел III "Лібіда", атр. 16.01.2025.)*

**(4) Індзейскі дэбют у эсэістыцы**

Большасьць свайго жыцьця я, мабыць, прачытаў. Чытаць для мяне азначае быць чалавекам. Размаўляць зь людзьмі, якіх тут няма - або, дакладней, ужо нідзе няма, апроч іхных кніг. У гэтай здольнасьці выклікаць духаў і палягае чалавецкасьць. Чалавек - чарадзей. Шаман.

Кніга - гіпэрфэтыш, у якім утрыманыя ўсе астатнія фэтышы.

Толькі калі я падрос, я са зьдзіўленьнем заўважыў, што многія людзі не ўспрымаюць кнігі сур'ёзна. Прынамсі, ня так сур'ёзна, як я.

Калі праз гады ў школе нам далі хатняе заданьне апісаць свой улюбёны прадмет, я апісаў кнігу - гэта быў Майн Рыд, "Ацэола, правадыр сэмінолаў". Апісваючы яе, я меў на ўвазе, натуральна, не прадмет, а свой стан - свой кайф - падчас чытаньня гэтай кнігі. Памятаю, як сядзеў і пісаў на кухні на Дуброўцы. Гэта было, напэўна, маё першае літаратуразнаўчае эсэ.

*(М. Шчур. Спроба экспэрымэнтальнага канст-руяваньня сябе, кн. I "Нявіннасьць", разьдзел II "Фэтышызм", атр. 16.01.2025.)*

**(5) Мае новыя індзейцы**

У 1983-м, пасьля прайгранай вайны з Брытаніяй, Аргентына жыла адносна бедна - але ў агульных рысах усё яшчэ лепей за савок. Прынамсі, так можна было меркаваць паводле прывезеных цёткаю фотаздымкаў і падарункаў. Плястмасавыя "індзейцы" ў "памятым" (вельмі незвычайным, гэткім цупкім і шапаткім) цэляфанавым пакецiку і падораная маёй маме цьвёрдая скураная торбачка пахлі аднолькава - нейкім дзівосным хімічным рэчывам, я чамусьці думаў, што нафтай: гэта быў для мяне пах Аргентыны.

Прыехаўшы ў Баранавічы ў 1983-м улетку, перад самай школай, я цэлымі днямі гуляўся са сваімі новымі індзейцамі на зялёнай цётчынай дывановай дарожцы. Такіх індзейцаў, як у мяне, не было ні ў кога! Былі ўсякія, якія і мне падабаліся (асабліва той са стрэльбай і адным пяром у доўгіх валасах, - чыста з кніг Сат-Ока! - у жоўтых нагавіцах, што сядзеў з выцягнутай нагой, як у ёгінскай позе "голуба", і падсякаў гэтай нагой усіх супернікаў, як каратыст у відэа гульні ў кінатэатры - здаецца, яго мне падарыў Саша Ляўшук), але ж ні ў якое параўнаньне з аргентынскімі індзейцамі яны ня йшлі. Тыя былі раскладныя, з плястмасы - можна было як заўгодна мяняць месцамі іхныя тулавы й галовы. На галовах у іх былі агромністыя каляровыя ўборы зь пёраў - сініх, чырвоных, зялёных - што зьвісалі па баках, чыста як у Седзячага Быка. У руках індзейцы трымалі дзіды, шчыты, лукі, нажы... У некалькіх на сьпіне былі калчаны... Іх было ўсяго шасьцёра: трое на конях, трое пешых. А якія ў іх былі коні! Як жывыя! Двое чорных і адзін белы (на ім ехаў правадыр). У баках у коней былі дзірачкі, куды ўстаўляліся "шпоры" на нагах індзейцаў, каб вершнікі ня ўпалі.

Але гэта яшчэ ня ўсё: у індзейцаў былі сапраўдныя вігвамы! Таксама тры: белы, сіні і зялёны, з прыгожымі срэбнымі карункамі-ромбікамі. На версе кожнага вігвама тырчала плястыкавая "затычка", што імітавала складзеныя ўверсе драўляныя шасты. Ну і вяршыняй усяго быў сьпярша не зразумелы мне татэмны слуп з крыламі: некалькі нагрувашчаных адна на адну жывёлаў, птушак і чалавечых твараў. Цётка Оля патлумачыла мне, што гэта індзейскі "бог". Такім было маё першае знаёмства з найвышэйшай істотай. Агулам слуп з крыламі нагадваў шасьціканцовы крыж Эўфрасіньні Полацкай на круглай падстаўцы, толькі даўжэйшая папярэчына (крылы арла) была ў ім наверсе, а карацейшая (крылы савы) унізе.

У маіх гульнях індзейцы супрацьстаялі драўляным цётчыным шахматам.

*(М. Шчур. Спроба экспэрымэнтальнага канструяваньня сябе, кн. I "Нявіннасьць", разьдзел IV "Аўтаэратызм", атр. 16.01.2025.)*

**(6) Бацька смяшыў**

Касэту ў плэеры я тут жа даў паслухаць бацьку. У навушніках бацька выглядаў даволі сьмешна, як індзеец у цыліндры: ён сядзеў сьпіной да мяне на дуброўскай кухні, слухаў Цоя і гартаў пры гэтым газэты.

*(М. Шчур. Спроба экспэрымэнтальнага канструяваньня сябе, кн. I "Нявіннасьць", разьдзел V "Эратаманія", атр. 16.01.2025.)*



***В "индейской комнате" Сергея Егорочкина много сувениров, многочисленные фигурки индейцев располагаются над камином, перед книгами на полках***

**(7) Сур'ёзнае абвінавачванне**

У чым мяне зьвінавацілі - і цалкам справядліва - гэта ў тым, што я згубіў свайго брата ў лесе. Як у той казцы. Але згубіў я яго, натуральна, не наўмысна. Неяк мы з хлапцамі - даволі вялікім "індзейскім" племем, індыяне былі тады ў модзе, - рушылі ў далёкі паход, за лес у суседнюю вёску. Я не ўяўляў сабе, наколькі далёка мы йдзем і як хутка вернемся, - але палічыў, што малы брат будзе надта валачыся, марудзіць, адставаць, таму, паводле ўзору адной дэбільнай савецкай дзіцячай кніжкі пра хлопчыка "часавога", загадаў яму вартаваць наш "лягер", маўляў, мы вернемся хутка, праз паўгадзіны. Я чамусьці думаў, што брат застанецца мужна і трывала стаяць на сваім "баявым пасту", як той савецкі хлопчык з кніжкі (вось яна, індактрынацыйная моц мастацкага слова), да самага нашага вяртаньня, - на крайні выпадак, вернецца дамоў сам, бо да хаты было рукой падаць цераз поле.




***Envelope from Museum of Indian Culture, Lenni Lenape Historical Society (Allentown, Pennsylvania) 1990-09-17 postmark Lehigh Valley, PA received 1990-10-06***

Факт той, што мы ў лесе самі крыху заблукалі, таму вярнуліся дамоў не праз гадзіну і ня дзьве, а праз чатыры, і зусім ня той дарогай, якой сыходзілі.

Тут жа на дварэ мяне сустрэла разьюшанае сямейства з пытаньнем: "А дзе Кірыл?"

Я зьніякавеў. "Ён ня дома?"

Аказваецца, майму дзядзьку ўжо званілі калегі зь міліцыі: хтосьці знайшоў у лесе хлопчыка, які ня ведаў, куды ішоў, - такога сабе Каспара Гаўзэра. Праз паўгадзіны Кірыла прывезьлі. Увесь гэты час ён блукаў па лесе, шукаючы нас, але дагнаць нас або знайсьці шансаў ня меў, і таму несуцешна плакаў.

Дзякуй богу, што на лясной дарозе ён сустрэў селяніна на возе. А не, скажам, ваўка - балазе ваўкоў тады ўжо ў ваколіцах Карэлічаў не было.

А што чатыры гадзіны рабілі ў лесе мы?

Што звычайна: стралялі з лукаў, зьбіралі арэхі, скакалі ў пясок з абрыву. А таксама наведалі сваячку майго сябра Вані - старэнькую бабулю, што жыла адна на хутары, у вялікай хаце пасярод лесу.

*(М. Шчур. Спроба эксперымэнтальнага канструяваньня сябе, кн. I "Нявіннасьць", разьдзел IV "Аўтаэратызм", атр. 16.01.2025.)*

(Загалоўкі абразкам далі мы.)

У электронным лісце ад 16.01.2025 г. Макс падсумаваў:

*"У мяне сапраўды зь дзяцінства такое трапяткое стаўленьне да індыянаў... І цывілізацыямі Амэрыкі я захапляўся ў свой час (адсюль аповед "Ліст, знойдзены на папялішчы"). Плюс факт таго, што вывучаў у школе і ўнівэры гішпанскую (у дадатак да сувязяў з Аргентынай)".*

…Мы працытавалі не ўсё індзейскае, што ёсць у яго ўспамінах, якія рыхтуюцца да выдання.

**Літ.:**

*2476 Барковский А. Жена индейского вождя в Якутии // Советы Якутии. 1993. 1 июля. С. 6.*

*2866 Кассиль Л. О Земле Соленых Скал и Дороге Горьких Слез // Сат-Ок. Земля Солёных Скал; Таинственные следы: повести / пер. с пол. Ю. И. Стадниченко. Мн., 1994. С. 5-11.*

*2870 Стадниченко Ю. Сат-Ок - Длинное Перо: (необычайная быль наших дней) // Сат-Ок. Земля Солёных Скал; Таинственные следы: повести / пер. с пол. Ю. И. Стадниченко. Мн., 1994. С. 299-315.*

**БАШЛАКОЎ Сяргей** (Siargei Bashlakou, Sergei



Гомельский Обком ЛКСМ Белоруссии
Общественно - политический клуб имени Эрнесто Че Гевары

Приглашаем Васна

выступление творческой группы
Киевского Центра Солиданости
с народами Латинской Америки
"Интербригада"!

"ВЕНСЕРЕМОС - МЫ ПООБЕДИМ!"

В программе: песни борьбы,песни народов Латинской Америки,
народные танцы и пантомима.

В составе бригады советские и латиноамериканские студенты.

~~По окончании пресс-конференция~~ По окончании встреча с участниками группы в КИДЕ

***Гомельский обком ЛКСМБ и Клуб Че Гевары приглашают на выступление творческой группы из Киева. "Венсеремос - мы победим!" (дополнено от руки - почерк А. Снитко)***



Программа
пребывания в Гомеле творческой группы
Киевского Центра Солидарности с народами
Латинской Америки. 25 - 27 марта 1988 г.

25 марта,пятница.

5.30 Встреча Группы на вокзале,размещение в гостинице, завтрак,отдых,обед. — Снитко

14.15 Выступление в Медицинском училище.

18.00 Выступление в Политехническом институте. — Руденко

20.30 Ужин.

26 марта,суббота.

9.00 Завтрак.

10.00 Экскурсия по городу. — Башлакова

13.00 Обед.

13.30 Выступление в Гом.Гос.Университете. — Башлаков

17 - 19.00 /?/ Выступление в БИИЖТе. — Барков

20.30 Ужин.

27 марта,воскресение.

9.00 Завтрак.

11.00 Концерт в ДК Химиков. — Руденко, Снитко

13.00 Обед.

16.00 Встреча в клубе.

члены фин.комиссии Снитко, Руденко
Резерв: Глушаков.

***"Программа пребывания в Гомеле творческой группы Киевского Центра Солидарности с народами Латинской Америки. 25-27 марта 1988 г." (дописано А. Снитко)***

Bashlakov) - быў вызваленым кіраўніком камсамольскай арганізацыі буйнога прамысловага прадпрыемства, пазней працаваў, у прыватнасці, у сферы тэхнічнага забеспячэння бытавога і культурнага боку ў дзейнасці арганізацый і прадпрыемстваў - "Гомель-Белпромкультура" (выраб мэблі для сядзення і іншага, ават картатэчных шаф (!); музычная апаратура і падобнае, як нам тады, у сярэдзіне 1990-х, уяўлялася, для карпаратываў). Прысутнічаў на ўстаноўчым з'ездзе БІТ 16.07.1987 г. як запрошаны госць (Наталля Смяглікава прадстаўляла на сціплым мерапрыемстве яго калег з рэгіянальнага кіраўніцтва камсамолу). Яго прозвішча фігуруе і ў арганізацыйных матэрыялах выступленняў у 1988 г. у Гомелі лаціна-амерыканска-савецкай творчай групы з Кіева.



Студэнцкі працоўны семестр

Будуе інтэрнацыянальны

Сем студэнцкіх будаўнічых атрадаў працуюць на аб'ектах трэста № 6 «Мазырнафтахімбуд». Атрад «Сож-83» Гомельскага політэхнічнага тэхнікума (камандзір атрада Віктар Ляўковіч, камісар Ганна Рэбко) па праву называюць інтэрнацыянальным. У яго складзе рускія, беларусы, прадстаўнікі Нікарагуа, Лаоса, Балівіі, Кастарыка, Манголіі.

Адзінай дружнай сям'ёй працуе атрад на будоўлях Мазыра. Частка байцоў занята на аддзелачных работах у СУ-183 на 60-кватэрным доме, частка — у БУ-152 на бетонных работах завода кармавых дражджжэй.

Нялёгкая праца бетоншчыка, але байцы паспяхова асвоілі гэтую прафесію і выконваюць нормы на 130—150 працэнтаў. Будатрад «Сож-83» па выніках спаборніцтва за трэцюю дэкаду заняў другое месца сярод студэнцкіх атрадаў, якія працуюць у Мазыры.

У вольны час «Сож-83» выступае з канцэртамі мастацкай самадзейнасці перад жыхарамі горада. Так, ім былі дадзены канцэрты на пляцоўках трэцяга і чацвёртага мікрараёнаў, на святкаванні Дня будаўніка ў раёне прафілакторыя-санаторыя «Палессе».

А. БАТУРЫН, нештатны карэспандэнт.

НА ЗДЫМКАХ: інтэрнацыянальны студэнцкі атрад «Сож-83»; (злева направа) Уго Сікуахара (Балівія), Фернандэз Санцьяга, Хенаро Рохас і Даніло Варэла (Нікарагуа) выконваюць кубінскую народную песню «Хіам Танамера» для будаўнікоў трэста № 6 «Мазырнафтахімбуд».

Фота аўтара.

...у пытанні вытворчай эстэтыкі. Адказным за наглядную агітацыю зацверджан дырэктар завода А. Е. Селівончык. Прадпрыемства заключыла дагавор з мастацкай майстэрняй па афармленню завода нагляднай агітацыяй. Распрацаваны канкрэтныя меры па адхіленню недахопаў, указанных у артыкуле «Завод новы, парадкі старыя».

*Article entitled Student Brigade is Building (in Belarusian, Будуе інтэрнацыянальны) by A. Baturyn in Gomelskaia prauda, 1983*

**Літ.:**

*2661 Шкут А. Ни дня без клуба // Знамя юности. 1988. 18 марта. (Рассказываем о молодежном самодеятельном объединении; Мы - интернационалисты; тыр. 780 тыс. экз.; об А. Снитко и В. Руденко, но упомянуты и другие из "костяка" Клуба Че - Сергей и Ирина Башлаковы, Виктория Тарасова, Петр Барков, Алла Потапова.)*

*5044 Дело Че Гевары живет, но проигрывает / Отдел международной информации "БДГ" // Белорусская деловая газета. 1997. 28 апр. С. 6.*

**ЛЯЎКОВІЧ Віктар** (Viktar Liaukovich, Viktor Levkovich) - матэрыял з "Гомельскай праўды" "Будуе інтэрнацыянальны. Студэнцкі працоўны семестр" адлічбаваны намі па выразцы з архіва Гомельскага лацінаамерыканскага цэнтра.

***А. Батурын***

**СТУДЭНТЫ З НІКАРАГУА, БАЛІВІІ І КОСТА-РЫКІ ПРАЦУЮЦЬ І СПЯВАЮЦЬ У МАЗЫРЫ**

Сем студэнцкіх будаўнічых атрадаў працуюць на аб'ектах трэста № 6 "Мазырнафтахімбуд". Атрад "Сож-83" Гомельскага політэхнічнага тэхнікума (камандзір атрада Віктар Ляўковіч, камісар Ганна Рэбко [Рабко]) па праву называюць інтэрнацыянальным. У яго саставе [складзе] рускія, беларусы, прадстаўнікі Нікарагуа, Лаоса, Балівіі, Костарыка [Коста-Рыкі], Манголіі.

Адзінай дружнай сям'ёй працуе атрад на будоўлях Мазыра. Частка байцоў занята на аддзелачных [апрацоўчых] работах у СУ-183 на 60-кватэрным доме, частка - у БУ-152 на бетонных работах завода кармавых дражджэй.

Нялёгкая праца бетоншчыка, але байцы паспяхова



I Песни Чили (Л. Эскиноса)
1) Мольба к земледельцу (В. Хара)
2) „Песня вместе со всеми"
3) Спасибо жизни (В. Парра)
4) Народные песни
II Песни Никарагуа (Л. Мартинес, Т. Миранда)
1)
2)
3)
4)
III Политическая пантомима Сальвадора (Х. Гонзалес и Р. Гомес)

*1) Songs of Chile 2) Songs of Nicaragua 3) Political pantomime of El Salvador (Gomel, 1988)*

асвоілі гэтую прафесію і выконваюць нормы на 130-150 працэнтаў. Будатрад "Сож-83" па выніках спаборніцтва за трэцюю дэкаду заняў другое месца сярод студэнцкіх атрадаў, якія працуюць у Мазыры.

У вольны час "Сож-83" выступае з канцэртамі мастацкай самадзейнасці перад жыхарамі горада. Так, ім былі дадзены канцэрты на пляцоўках трэцяга і чацвёртага мікрараёнаў, на святкаванні Дня будаўніка ў раёне прафілакторыя-санаторыя "Палессе".

А. БАТУРЫН, няштатны карэспандэнт.

НА ЗДЫМКАХ: інтэрнацыянальны студэнцкі атрад "Сож-83"; (злева направа) Уго Сікуахара (Балівія) [Hugo Sicuajara?], Фернандэз Санцьяга [Фернандэс Сант'яга, Fernandez Santiago, Santiago Fernandez?], Хенаро [Хенара] Рохас [Genaro або Jenaro Rojas] і Даніло [Даніла] Варэла [Danilo Varela] (Нікарагуа) выконваюць кубінскую народную песню "Хіам Танамера [?; Гуантанамера? Guantanamera]" для будаўнікоў трэста № 6 "Мазырнафтахімбуд".


V(5) Муз-драм композиция „Фарабундо Марти" (Л. Мартинес, Т. Миранда / Х. Колиндрес Р. Галеас)

IV(4) Песни Латинской Америки (С. Картахена)
1)
2)
3)

VI Музыкальная пантомима (А. Эспиноса, Х. Колиндрес. Р. Галеас)
1)
2)
3)

VII Танцы Сальвадора (С. Картахена, Х. Колиндрес.)
1)
2)
3)

***4) Songs of Latin America 5) Musical and dramatic composition "Farabundo Marti" 6) Musical pantomime 7) Dances of El Salvador in Gomel, 1988***

Фота аўтара.

**Літ.:**

*1271 Забяспечыць правы індзейцаў // Гомельская праўда. 1983. 5 студз.*

*12199 Архипова А. В гости к индейцам и римским гладиаторам // Гомельская праўда. 2016. 19 крас. С. 5.*

*9199 Костян И. Позади садящегося солнца // Костян И. Перекресток миров. Мозырь, 2010. С. 3-104. (Книга об апачах.)*

*10128 Костян И. Неизвестный фронтир. Мозырь, 2017.*

*11944 Шостак О. Г. Проблемы интерпретации произведений американских писателей-нативистов // Текст. Язык. Человек: материалы IV Международной научной конференции, 15-16 мая 2007 г., Мозырь: в 2 ч. Ч. 1. / отв. ред. С. Б. Кураш, В. Ф. Русецкий. Мозырь, 2007. С. 215-217.*

**СНІТКО Аляксандр** (2) - адзін з арганізатараў з беларускага боку творчага савецка-лацінаамерыканскага дэсанта з Кіева ў 1988 г. Дакументаў гэтага мерапрыемства маем алічбаванымі, у прыватнасці",

*"Список участников агиттворческой групы киевского Центра Солидарности с народами стран Латинской Америки для выступлений в г. Гомеле. [Указано] место учебы [:] 1. Тарас Бебешко (руководитель) [Taras Bebeshko] КИНХ 2. Олег Ясинский*


План
подготовки и проведения гастролей агиттворческой группы киевского Центра Солидарности с народами Латинской Америки "Интербригада".

I. Послать приглашение в адрес Киевского ГК ЛКСМУ
- Гомельский ОК ЛКСМБ.

2. Изготовить/Заказать афишу.
- Гомельский ОК ЛКСМБ.

3. Решить вопросы размещения и питания.
- Гомельский ОК ЛКСМБ.

4. Аренда залов: а/ в ДК профсоюзов;
б/ в ВУЗах и техникумах;
в/.в других местах.
- Гомельский ОК ЛКСМБ.

5. Решить вопрос с билетами - Гомельский ОК ЛКСМБ.

6. Сопровождение группы - ОПК им. Э.Че Гевары.

7. Проведение акций солидарности
а. Стенд: Адреса Солидарности;
б. Сбор подписей /Колумбия, Чили, Бирмингемская шестёрка, Пелтиер/.
в. Сбор средств в фонд компартии Чили:
- киоск солидарности /~~СПТУ - 126~~/: Клуб им Че Гевары
- буфет солидарности /СПТУ - /.
- ОПК им.Э.Че Гевары.

8. Оповещение, обеспечение присутствия зрителей.
- ОПК им.Э.Че Гевары.

***"План подготовки и проведения гастролей агиттворческой группы киевского Центра Солидарности с народами Латинской Америки "Интербригада"" (Гомель, 1988)***


С П И С О К
участников агиттворческой группы киевского Центра Солидарности с народами стран Латинской Америки для выступлений в г.Гомеле.

| | место учёбы |
|---|---|
| I. Тарас Бебешко /руководитель/ | КИНХ |
| 2. Олег Ясинский | КГПИ |
| 3. Светлана Картахена | —— |
| 4. Хосе Кастаньеда /Никарагуа/ | КИНХ |
| 5. Альваро Торрес / Никарагуа/ | КИНХ |
| 6. Альваро Моралес /Чили/ | КИНХ |
| 7. Луис Мартинес /Никарагуа/ | КТИ |
| 8. Татьяна Миранда /Никарагуа/ | КТИ |
| 9. Алехандро Эспиноса /Чили/ | КТИ |
| IO. Хосе Колиндрес /Сальвадор/ | КТИ |
| II. Рамон Галеас /Сальвадор/ | КТИ |
| 12. Владимир Картахена/Сальвадор/ | КИИГА |

+КИНХ - Киевский Институт Народного Хозяйства.
КТИ - Киевский Технологический Институт.
КГПИ - Киевский Государственный Педагогический Институт.
Светлана Картахена работает в детском саду.

***"Спіс удзельнікаў агіттворчай групы кіеўскага Цэнтра Салідарнасці з народамі краін Лацінскай Амерыкі для выступленняў у г. Гомелі" (1988)***


~~Программа~~ Номера агитпрограммы исп.

1) Песни Чили — Алехандро Эспиноса.

2) Песни Никарагуа — Луис Мартинес, Татьяна Миранда.

3) Политическая пантомима Сальвадора — Хосе Колиндрес, Рамон Галеас

4.) Музыкально-драматическая композиция „Фарабундо Марти" — Луис Мартинес, Татьяна Миранда, Хосе Колиндрес, Рамон Галеас

5) Песни Лат. Ам. — Св. Картахена.

6) Музыкальная пантомима — Алехандр Эспиноса, Хосе Колиндрес, Рамон Галеас

7) Танцы Сальвадора — Св. Картахена, Хосе Колиндрес.

***"Нумары агітпраграмы". Лацінаамерыканцы ў Гомелі, 1988. Паводле спіса Святланы Картахены склаў Аляксандр Снітко***

*[Oleg Yasinsky] КГПИ 3. Светлана Картахена [Svetlana Cartagena] - [не учится] 4. Хосе Кастаньеда (Никарагуа) [Jose Castaneda] КИНХ 5. Альваро Торрес (Никарагуа) [Alvaro Torres] КИНХ 6. Альваро Моралес (Чили) [Alvaro Morales] КИНХ 7. Луис Мартинес (Никарагуа) [Luis Martinez] КТИ 8. Татьяна Миранда (Никарагуа) [Tatiana Miranda] КТИ 9. Алехандро Эспиноса (Чили) [Alejandro Espinosa] КТИ 10. Хосе Колиндрес (Сальвадор) [Jose Colindres] КТИ 11. Рамон Галеас (Сальвадор) [Ramon Galeas?] КТИ 12. Владимир Картахена (Сальвадор) [Vladimir Cartagena] КИИГА*

*КИНХ - Киевский Институт Народного Хозяйства. КТИ - Киевский Технологический Институт. КГПИ - Киевский Государственный Педагогический Институт. Светлана Картахена работает в детском саду. [КИИГА - Киевский институт инженеров гражданской авиации]".*

Тарас Бябешка ў перыяд блізкасці са Снітко пабываў разам з ім нават на паўваў савецкіх індзеяністаў 1988 г. пад Ленінградам. Адна з найбольш артыстычных з усіх членаў дэсанта - Святлана Картахена (Сізова - Sizova, Sizoff ) - пазней шмат спявала ў Цэнтральнай Амерыцы, пакуль не пераехала ў Чылі.

**Літ.:**

*512 Раманава Н. Партрэт "дзяцей": разважанні аб маладзёжных грамадска-палітычных клубах // Гомельская праўда. 1987. 1 верас.*

**ШУШКЕВІЧ Станіслаў** - (Stanislau Shushkevich) - яшчэ адзін беларускі аўтамабіліст у Аклахоме. Нарадзіўся ў Мінску, памёр у 2022 г. пасля хваробы, звязанай



***Photo from a Kiowa, Arthur Landin (Lawrence, Kansas), sent from Oklahoma City, received 1990-09-28***


UNITED STATES
DEPARTMENT OF THE INTERIOR
INDIAN ARTS AND CRAFTS BOARD
SOUTHERN PLAINS INDIAN MUSEUM AND CRAFTS CENTER
POST OFFICE BOX 749
ANADARKO, OKLAHOMA 73005

April 17, 1991

Mr. Ales Simakou
Byelorussian-American Indian Society
Gomel 2460YG
BSSR,
USSR

Dear Mr. Simakou:

We have received your letter of January 29;--it arrived here on April 15.

We feel that it would be best for you to contact the Kiowa-Apache and Chiricahua Apaches direct and therefore we are providing the following addresses:

*Apache Tribe of Western Oklahoma
P.O. Box 309
Anadarko, Oklahoma 73005

*(Kiowa-Apache)

Mildred Cleghorn, Chairperson
*Fort Sill Apache
Business Committee
Route 2, Box 12
Apache, Oklahoma 73005

*(Chiricahua Apache)

For your interest we enclose a Museum program brochure as well as a brochure for our current Special Exhibition, RAKU SCULPTURE BY REUBEN KENT.

Thank you for your interest.

Sincerely yours,

Rosemary Ellison
Rosemary Ellison
Curator

Enclosure

***Letter from Rosemary Love Ellison (1938-2002, 64), Southern Plains Indian Museum and Crafts Center, Indian Arts and Crafts Board, U.S. Department of Interior (Anadarko, Oklahoma) 1991-04-17 received 1991-05-14***




***Envelope from Leonard Peltier Defense Committee (Lawrence, Kansas) postmark Kansas City, KS 1995-08-01 received 1995-08-12***

з кавіднай інфекцыяй.

У кнізе "Маё жыццё, крах і ўваскрошанне СССР" (2013) ён падрабязна апісвае свой першы візіт ў ЗША ў 1993 г., але з ёй ёсць і кароткія звесткі пра паездку 2008 г.

Уінфілд у Канзасе (Winfield, Kansas) - месца размяшчэння Паўднёва-Заходняга каледжа, які вядомы і спалучэннем "The Southwestern College Center for Belarusian Studies", - знаходзіцца на паўднёвы ўсход ад горада Уічыта, на дарозе, якая вядзе з апошняга праз Аклахома-Сіці ў Далас.

У подпісах пад здымкамі Уінфілд або Вінфілд памылкова напісаны як Вінсфілд (што ў цытатах мы папраўілі), але ва ўласна тэксце Шушкевіча - Вінфілд.

*"Вялікім гонарам для мяне было запрашэнне прачытаць інаўгурацыйную лекцыю ў сувязі з адкрыццём у штаце Канзас Беларускага акадэмічнага цэнтра, створанага намаганнямі былых амбасадараў ЗША ў Беларусі Дэвіда Суорца і Кенета Ялавіца сумесна з Радай Беларускай Народнай Рэспублікі, дзеячамі беларускай дыяспары і энтузіястамі коледжа [каледжа] ў Вінфілдзе. Урачыстае адкрыццё цэнтра адбылося на сходзе ў самым вялікім горадзе штата Канзас Вічыта [Уічыта, Wichita] ў канферэнц-зале гасцініцы "Hyatt" 19 красавіка 2008 г."*

*"У Беларускім акадэмічным цэнтры ў Вінфілдзе (ЗША, штат Канзас) перыядычна збіраюцца навукоўцы, выкладчыкі, палітыкі і грамадскія дзеячы, якія займаюцца беларускай праблематыкай. На здымку можна знайсці Івонку і Паўлінку Сурвілаў [Ivonka Survilla, Maria Paula Survilla (1964-2020)], экс-амбасадараў ЗША ў Беларусі Дэвіда Суорца і Кенета Ялавіца, экс-рэктара БДУ прафесара Аляксандра Казуліна, прарэктара ЕГУ Аляксандра Калбаску і многіх іншых".*

Пра паездку на аўтамабілі з жонкай Ірынай праз Аклахому ў Далас Шушкевіч згадаў у сувязі з закранутай ім тэмай "яго вучня" Лі Харві Освальда.

*"Так сталася, што ў мяне знайшліся два вольныя дні падчас побыту ў Канзасе ў Беларускім адукацыйным цэнтры ў Вінфілдзе, і мы з жонкай вырашылі здзейсніць аўтапрабег Вінфілд-Аклахома-Далас. За рулём змянялі адзін аднаго, таму дарога не заняла шмат часу.*

*Месца злачынства і музеі Даласа, у тым ліку музей "Шосты паверх", дзе растлумачана, як быў здзейснены смяротны стрэл, наведвае шмат турыстаў. Мы не сустрэлі сярод іх тых, хто б верыў у праўдзівасць версіі Эрла Уорэна".* Шушкевіч быў упэўнены, што Освальд зрабіць гэтага не мог.

Шушкевіча пацягнула ў Далас - па яго ўспамінах не выклікае сумненняў, што з адзінай мэтай паглядзець, як выглядае горад, дзе адбылася драма Освальда-Кенэдзі. Освальда ён іранічна называе "маім вучнем" таму, што, маўляў, вучыў яго рускай мове ў Менску.

Шушкевіча "пацягнула" не да, напрыклад, індзейцаў у Аклахоме або Нью-Мексіка, а ў Далас.

Але матываў з індзейскім кампанентам у сувязі з першым афіцыйным "правадыром" незалежнай Беларусі шмат, публічна пытанне пра індзейцаў задаў яму на адной імпрэзе нават прадстаўнік Беларуска-індзейскага



№51 (155)
14 — 20 декабря 1992 г.
ЦЕНА 3 руб.

ФАКТ

# Шушкевич вступает на тропу войны?

Партия Славянский Собор «Белая Русь» обратилась в Верховный Совет с заявлением по поводу интервью Председателя ВС Беларуси Станислава Шушкевича «Народной газете» от 13 ноября 1992 года. В нем, в частности, говорится:

«Орган печати ВС РБ — "Народная газета" в последнее время все чаще используется для антинародных выступлений. Парламент республики не только попустительствует такой практике, но и допускает активное участие в ней представителей высшего звена власти. Так, в интервью «Народной газете» от 13 ноября, затрагивая серьезнейший аспект национальной политики —языковой, спикер парламента Станислав Шушкевич, безапелляционно отвергая государственный билингвизм вопреки воле своего народа, оскорбляет сторонников государственного двуязычия, огульно обвиняя их в «лени» и «нежелании что-то учить».

Игнорируя тот факт, что большинство этнических белорусов, согласно результатам социсследований, высказывается в пользу государственного двуязычия, Председатель ВС РБ представляет дело так, будто врагами белорусского языка (т.е. сторонниками двуязычия) являются «представители другой национальности», «другой страны». Проведя таким образом четкий водораздел между «своими» и «чужими», определив с большевистской решительностью врагов белорусского языка, и следовательно «врагов народа», спикер белорусского парламента С.Шушкевич вступил на опасную стезю дестабилизации национального согласия в республике, на тропу войны с собственным народом..."

Соб.инф.

***Шушкевич вступает на тропу войны (7 дней. 14-20.12.1992. № 51). Belarusian Chairman Stanislau Shushkevich possibly "enters the warpath" against state bilingualism***

таварыства.

У 1992 г. газета "7 дней" прысвяціла яго моўным поглядам (палітыцы) "перадавую" нататку "Шушкевіч ступае на сцежку вайны?". Публіцыстычны выраз "на сцежцы вайны" нейтральны - "на сцежцы вайны" можна быць як за адну дзяржаўную мову, так і за дзве замест адной. Гэта стандартная цяга чалавецтва да эфектных фраз. Тым не менш, індзеяністам хацелася б, каб "апошнімі магіканамі" не былі нягоднікі, а "на сцежку вайны" выходзілі толькі з высакароднай мэтай - але абавязкова "ў пераносным сэнсе", без зброі.

У 2007 г. матэрыял з цытатамі з выказванняў старшыні Беларускай сацыял-дэмакратычнай "Грамады" Шушкевіча меў загаловак "У нас заўсёды індзейцаў менш, чым правадыроў":

*"У нас зараз у партыі колькасць "інтэлектуалаў" паменшылася, а колькасць "маргіналаў" узрасла. І, вы ведаеце, гэта я лічу вялікім дасягненнем. Тыя, каго я адношу да маргіналаў, яны больш за ўсё зараз патрэбныя. У нас заўсёды індзейцаў менш, чым правадыроў. Ёсць каму казаць, заклікаць - няма каму рабіць. У нашай партыі зараз, мне здаецца, разумныя суадносіны гэтых прапорцый".*

Як вядома, самакрытычная фраза "шмат правадыроў, мала індзейцаў" увайшла ў актыўны слоўнік беларускай апазіцыі.

Хаця алкаголь, тытунь, азартныя гульні - ледзь не самыя галоўныя палітычныя тэмы з пункту гледжання індзеяністаў - выглядаюць у тэкстах палітыка не так, як нам хацелася б, мы, безумоўна, паважаем Станіслава Шушкевіча як інтэлігента, прыстойнага чалавека, годнага сына пісьменніка з тым жа іменем, ад якога мелі карысныя ў нашай працы і проста прыемныя пасланні.

**Літ.:**

*11899 Mohrenschildt G. De. Lee Harvey Oswald as I knew him / ed. and annot. by M. A. Rinella. Lawrence, KS, 2014. (University Press of Kansas; аўтар - ураджэнец Беларусі.)*

*2828 Стэйнбек Дж. Гронкі гневу: раман / пер. з англ. С. Дорскага; прадм. Г. Шупенькі. Мн., 1993. (Аклахома.)*

*4795 Канзас // Беларуская энцыклапедыя: у 18 т. Т. 7. Мн., 1998. С. 584.*

*7319 Тэхас // Беларуская энцыклапедыя: у 18 т. Т. 16. Мн., 2003. С. 147.*

***Алесь Сімакоў,***
*даследчык беларуска-індзейскіх сувязей.*
***Ales Simakou*** *(e-mail: baicri@tut.by),*
*researcher of Belarusian-Indian (American Indian, Native American, Amerindian, First Nations) connections.*

***Індзейцы, индейцы, Indianie, Indians, indigenous peoples, indigenas, indios de America у Belarus; Алесь Симаков. Белорусы встречаются с индейцами. [Вып. 133].***

# Дамова са "Смаленскай фартэцай"

17 студзеня 2025 г. у Лідскім замку адбылося падпісанне пагаднення пра супрацоўніцтва паміж Дзяржаўнай установай "Лідскі гістарычна-мастацкі музей" (г. Ліда, Рэспубліка Беларусь) і дзяржаўным музеем "Смаленская фартэца" (г. Смаленск, Расія).







***ТК "Культура Лідчыны".***

# Экскурсія "Аб чым раскажуць кніжныя паліцы"

Філіял "Лідская гарадская бібліятэка №1" гасцінна сустрэў дзяцей на экскурсію "Аб чым раскажуць кніжныя паліцы". Падчас правядзення мерапрыемства хлопчыкі і дзяўчынкі пазнаёміліся з гісторыяй бібліятэкі, даведаліся пра магчымасці бібліятэкі, наведалі яе аддзелы (абанемент, чытальную залу), пазнаёміліся з кніжнымі выставамі, успомнілі аб правілах паводзін у бібліятэцы і правілах карыстання кнігамі. На абанеменце школьнікі ўбачылі як на полках размеркаваны кніжны фонд бібліятэкі, пазнаёміліся з дзіцячымі кнігамі.









Хлопчыкам асабліва спадабаліся дзіцячыя дэтэктывы і прыгоды, дзяўчынак захапілі казкі. У чытальнай зале дзеці даведаліся аб даведачна-бібліяграфічным апараце бібліятэкі і для чаго ён патрэбны. Мелі магчымасць пазнаёміцца з энцыклапедычным фондам. Здзейсніўшы экскурсію па бібліятэцы, дзеці пажадалі не толькі запісацца ў бібліятэку і быць харошымі чытачамі, але і часцей наведваць царства кніжных сяброў.

***Наш кар.***

*Рэдактар Станіслаў Вацлававіч Суднік*

*Адрас рэдакцыі:*
231282, г. Ліда, вул. Лётная, 7а.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:*
231282, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* sudnik@list.ru, sejlawiczy@gmail.com

Газета падпісана да друку 20.01.2025 г.

Фармат А-4.
Аб'ём 3 друкаванаыя аркушы.

***Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі. Рэдакцыя рукапісы не вяртае.***

**Газета размяшчаецца на сайтах: http://nslowa.by/; http://pawet.net/; http://belkiosk.by/**
*Дазваляецца самастойная раздрукоўка на паперу.*